Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 270.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Пятніца, 3 красавіка 1998 г. № 34 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Долар пайшоў у рост

**Нацыянальны банк трохі адпусціў фіксаваны курс наяўнага долара.**

Ужо 31 сакавіка ў абменных пунктах банкаў адбылося павышэнне каціровак да 43—44 тысячаў, а 1 красавіка — да 44—45 тысячаў рублёў. Як растлумачылі ва ўпраўленні валютнай палітыкі Нацбанка, рост каціровак *«закліканы актывізаваць продаж валюты насельніцтвам і не супярэчыць указанням прэзідэнта краіны, паколькі цяперашнія курсы адпавядаюць узроўню пачатку сакавіка»*. Начальнік упраўлення Сяргей Гайко не змог адказаць на пытанне наконт далейшай дынамікі курсу. Тым часам на «чорным» рынку ў Мінску долар ужо купляюць па 45—46 тысячаў і прадаюць па 47 тысячаў рублёў.

*БелаПАН*

## Саюз даўжнікоў

**Запазычанасць па зарплаце — адна з характэрных асаблівасцяў саюза Беларусі і Расіі.**

Як паведамілі ў міністэрстве статыстыкі РБ, даўгі па зарплаце ў калгасах, саўгасах і іншых прадпрыемствах аграрнага сектару склалі 648 мільярдаў рублёў (па звестках на 25 сакавіка). Найбольш катастрафічная сітуацыя ў Гомельскай, Мінскай і Магілёўскай абласцях. Своечасова не выплачваюцца заробкі і ў прамысловасці. Напрыканцы сакавіка даўгі ў гэтай галіне склалі 257 мільярдаў рублёў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**



***ВЯСНА!..***

*БНР: стратэгія і тактыка*

## Небяспечныя гульні альбо стваральная праца?

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ,**
**в.а. старшыні БНФ**



Апошнія месяцы і тыдні прыўнеслі ў беларускае палітычнае жыццё пэўныя нюансы. Урад Лукашэнкі, у сувязі з «непаслухмянасцю» нацыянальнай валюты, вёў змаганне... супраць сябе самога і адначасна за сваё рынкава-сацыялістычнае існаванне. Сам прэзідэнт чарговы раз у Мурманску хадзіў са сваёй казырнай інтэграцыйнай карты. Тым часам шэраг асобаў, партыяў і грамадскіх аб'яднанняў пачалі актыўна прапагандаваць свой удзел у віртуальнай прэзідэнцкай кампаніі 1999 года.

Палярная разнавектарнасць у стратэгіі антытаталітарных сіл прыводзіць не толькі да разгубленасці шмат якіх людзей, але можа прывесці да трагедыі ўсю Беларусь.

Апошнія гады трывалым падмуркам узаемадзеяння БНФ з шэрагам партыяў і асобных палітыкаў была і застаецца Канстытуцыя 1994 года. Гэта не значыць, што гэтая Канстытуцыя ўспрымаецца намі як дасканалы дакумент, але іншага, як кажуць, пакуль што няма. І вось з боку людзей, якія сцвярджаюць, што для іх гэта самая Канстытуцыя — святая святых (у прыватнасці, з боку АГП), узнікае ініцыятыва фактычна за любы кошт пайсці на выбары прэзідэнта ў 1999 годзе. Але давайце зазірнем у тэкст самой Канстытуцыі. Згодна з яе артыкуламі 83 і 97, і выбары прэзідэнта Беларусі, і выбары ў Вярхоўны Савет, і выбары ў мясцовыя саветы можа прызначаць **толькі Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь**. Зрабіць гэта ён можа толькі пры наяўнасці кворуму, вызначанага рэгламентам Вярхоўнага Савета — сёння гэта прыкладна 100 абраных у 1995-1996 гадах дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

Калі Аляксандр Лукашэнка распусціць свае незаконныя «палаты», Вярхоўны Савет збярэцца ў правамоцным складзе, прызначыць даты ўсіх выбараў і забяспечыць дэмакратычны характар іх правядзення — тады, безумоўна, можна будзе весці гаворку і пра змены ў Канстытуцыі дзеля рэзкага абмежавання паўнамоцтваў прэзідэнта і пра кандыдатаў у прэзідэнты ды на іншыя найважнейшыя дзяржаўныя пасады, і пра ўсё астатняе, звязанае са стварэннем механізму аднаўлення дэмакратычнага ладу ў Беларусі. Згадзіцеся, аднак, што такі сцэнар вельмі малаверагодны, калі браць пад увагу асабістыя якасці Аляксандра Лукашэнкі і матэрыяльныя інтарэсы тых праімперскіх, прарасійскіх сіл, што за ім стаяць. Гэты сцэнар можа па-сапраўднаму ажыццявіцца толькі, калі народ прымусіць сённяшняга прэзідэнта сысці ў адстаўку.

Але на сённяшні дзень больш верагодным уяўляецца іншы сцэнар. А.Лукашэнка, згодна са сваёй канстытуцыяй, сам прызначае прэзідэнцкія выбары — і не так істотна, у 1999 (як датэрміновыя, на пагляд прэзідэнцкіх юрыстаў) альбо ў 2001 годзе.

Нашы сённяшнія апазіцыянеры думаюць, што яны кінуць выклік таму, хто іх не раз абыгрываў, і, калі не выйграюць, дык «у бойцы» паўдзельнічаюць (а выйграць ім выканаўчая ўлада і гебельсаўская прапаганда проста не дадуць). У выніку сам факт удзелу дэмакратычных арганізацыяў у выбарах, прызначаных Лукашэнкам, засведчыць фактычнае прызнанне імі «канстытуцыі» 1996 года і, адпаведна, **прымусіць заходнія краіны прызнаць і лукашэнкаўскую канстытуцыю, і «палатнікаў», а самае галоўнае, легітымнасць улады Лукашэнкі на наступныя 5 гадоў**. Можа, нехта і хацеў бы згуляць у такія гульні, і ўсё гэта можна было б, як кажуць, перажыць, каб не тая велізарная небяспека, што ствараецца праз гэта для незалежнасці Беларусі. Рэч у тым, што калі Лукашэнка пойдзе на прызначэнне прэзідэнцкіх выбараў у 1999 годзе, то ён абавязкова адначасна прызначыць не толькі выбары ў «палаты» ды дэкаратыўныя сёння мясцовыя саветы, **але і выбары ў так званы «саюзны», беларуска-расійскі парламент альбо і абвесціць «аб'яднаўчы» рэферэндум.**

Прызначэнне на адзін дзень некалькіх выбараў, ды яшчэ з «удзелам дэмакратычных кандыдатаў», прывядзе да таго, што значная частка нашых грамадзянаў усё-такі прыйдзе на выбарчыя ўчасткі, маючы ілюзію «справядлівых» выбараў і кантролю, а падкантрольныя «вертыкалі» выбарчыя камісіі «прыйдуць» за астатніх. У выніку Аляксандр Лукашэнка атрымае запланаванае «амаль стопрацэнтовае жаданне беларускага народа жыць у саюзнай дзяржаве» і чарговы шанец ухлюпіцца ў расійскія палітычныя гульні 2 000 года. А сусветная дэмакратычная супольнасць будзе фактычна змушаная прызнаць вынікі такіх «выбараў» ды «рэферэндумаў», бо ў іх жа ўдзельнічалі партыі ды рухі, што называюць сябе дэмакратычнымі. Адпаведна, адбудзецца і **прызнанне дэ-юрэ ліквідацыі незалежнай беларускай дзяржавы**. Не бачыць такой небяспекі можна толькі будучы зусім наіўнымі людзьмі альбо асобамі, што ўяўляюць сябе выдатнымі палітычнымі гульцамі, альбо, кажучы без залішняй дыпламатычнасці, свядомымі здраднікамі.

*(Працяг на стр. 4)*

## Латышы плацяць за мяжу

**Латвія выдзеліць у 1998-99 гадах 17 мільёнаў латаў на ўпарадкаванне мяжы з Беларуссю і Расіяй.**

Адпаведнае рашэнне прыняў латвійскі ўрад 31 сакавіка. Прэс-служба ўрада Латвіі паведаміла, што ў бюджэт на 1998 год будзе спецыяльна ўведзена 10 мільёнаў латаў (17 млн. долараў), а на 1999 год — яшчэ 7 мільёнаў латаў (11,8 млн. долараў). Грошы будуць перададзеныя міністэрству ўнутраных справаў на правядзенне належных работ. Урад Латвіі аб'явіў абсталяванне мяжы з Беларуссю і Расіяй адным з прыярытэтаў на бліжэйшую перспектыву.

*BNS—БелаПАН*

## МЗС «прабівае калідоры»

**Першы намеснік міністра замежных справаў Сяргей Мартынаў на брыфінгу для журналістаў распавёў пра геаграфію будучых паездак высокапастаўленых чыноўнікаў.**

Прэзідэнт Лукашэнка збіраецца з'ездзіць у Нью-Йорк у якасці кіраўніка беларускай дэлегацыі на сесіі Генасамблеі ААН. Тут зноў прагучыць яго ная прамова па стварэнні «бяз'ядзернай зоны» ў Еўропе. У канцы чэрвеня Лукашэнка хоча пабываць у Швейцарыі. Прапрацоўваецца таксама прэзідэнцкі візіт на Кубу дзеля сустрэчы з Фідэлем Кастра.

Тым часам міністр Іван Антановіч летам пабывае ў Чылі і Уругваі, каб, па словах С.Мартынава, «стварыць палітычны калідор» для прэзідэнта Беларусі. Ісламскую рэспубліку Пакістан пасля Антановіча мае намер наведаць прэм'ер-міністр С.Лінг, каб вырашыць пытанне аб продажы беларускіх трактараў у гэтую краіну.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Рыбкін развозіць пакеты

**Іван Рыбкін дабіраўся да Мінска цэлы тыдзень. Першапачаткова запланаваны на 23 сакавіка візіт адбыўся толькі 1 красавіка.**

Выконваючы абавязкі віцэ-прэм'ера Расіі Іван Рыбкін прывёз Аляксандру Лукашэнку асабістае пасланне Барыса Ельцына. Дакумент мае «канфідэнцыйны характар», падкрэсліў І.Рыбкін, таму пра яго змест журналістам нічога канкрэтнага не паведамілі. Аднак, перадае БелаПАН, перамовы з беларускім прэзідэнтам доўжыліся больш за чатыры з паловай гадзіны, і было абмеркавана шмат іншых пытанняў. У прыватнасці, паінфармаваў Рыбкін, ішла гаворка аб супрацоўніцтве Беларусі з расійскімі рэгіёнамі, а таксама пра стварэнне беларуска-расійскай экспертнай камісіі, якая будзе займацца пытаннямі стабілізацыі беларускага рубля.

Рыбкін таксама меў сустрэчы з прэм'ер-міністрам С.Лінгам і выканаўчым сакратаром СНД І.Каратчэнем, а сваю паездку ўвогуле ахарактарызаваў як *«рабочую ў рамках падрыхтоўкі да саміту СНД»*. Затрымка візіту на тыдзень была выкліканая адстаўкай урада РФ, аднак Рыбкін падкрэсліў, што ход фарміравання новага ўрада Расіі не паўплывае на правядзенне сустрэчы кіраўнікоў СНД у Маскве, і гэты форум адбудзецца 29 красавіка. Між тым І.Каратчэня адзначыў, што *«дата канчаткова не зацверджаная і ёсць пэўныя нюансы»*. Назіральнікі не выключаюць, што гэтыя «нюансы» звязаныя якраз з рэакцыяй Лукашэнкі на ельцынскае пасланне.



*Іван Рыбкін.*

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## Мэр Масквы збіраецца ў Мінск

**Мэр Масквы Юрый Лужкоў збіраецца ў пачатку траўня наведаць Мінск, каб абмеркаваць з кіраўніцтвам Беларусі пытанні двухбаковага супрацоўніцтва.**

Юрый Лужкоў паведаміў, што ў гэтым годзе Масква збіраецца павялічыць у паўтара раза закупкі рухавікоў Мінскага маторнага завода для аўтамабіляў «Бычок», якія выпускае «ЗіЛ». Мяркуецца, што ў 1998 годзе мінскае прадпрыемства паставіць у расійскую сталіцу 25 тыс. рухавікоў. Па словах мэра, у 3 разы павялічацца пастаўкі беларускіх тралейбусаў у Маскву. Для гэтага плануецца выкарыстаць бартэрную схему, пры якой у абмен на тралейбусы расійская сталіца будзе накіроўваць у Беларусь таджыкскую бавоўну.

*Інтэрфакс*

## «Калашнікаў» – лепшы сябар беларускіх дзяцей?

**Ва ўсе школы з 1 верасня вернецца абавязковая вайсковая падрыхтоўка старшакласнікаў.**

Пра гэта з упэўненасцю заявіў генерал-маёр Міхаіл Каўроў, які кіруе арганізацыйна-мабілізацыйным упраўленнем Генштаба Узброеных сіл Беларусі. На прэс-канферэнцыі з нагоды 80-годдзя сістэмы вайсковых камісарыятаў, генерал вітаў крокі, якія робіцца ў краіне дзеля *«павышэння ўзроўню падрыхтоўкі вайсковых рэсурсаў»*. Ён пацвердзіў, што дакументы аб аднаўленні «ваенкі» ў школах ужо падрыхтаваныя і адпаведны нарматыўны акт хутка будзе выдадзены.

У пачатку 90-ых гадоў вайсковая падрыхтоўка ў школах Беларусі была скасаваная. Асновы вайсковай справы выкладаліся толькі ў межах курса спецыяльнай падрыхтоўкі, у школах былі ліквідаваныя арсеналы вучэбнай зброі, на якой хлопцаў вучылі збіраць-разбіраць аўтамат. Цяпер ім прыйдзецца ўзяцца за «калашнікава» зноў. Хутчэй за ўсё, адновіцца вайсковая падрыхтоўка і для дзяўчат, якіх у савецкія часы рыхтавалі на санітарак.

*«Да нас набліжаецца NATO і таму ніякага пацыфізму сярод беларускай моладзі не будзе»*, — тлумачыў сутнасць моманту генерал Каўроў.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Хартыя-97 у Нью-Йорку

**Міжнародная ліга правоў чалавека абвясціла ўчора аб усталяванні партнёрства з Хартыяй-97.**

Андрэй Саннікаў, каардынатар Хартыі па міжнародных справах, адчыніў інфармацыйны офіс пры штаб-кватэры Лігі ў Нью-Йорку для распаўсюджвання бюлетэняў і зваротаў Хартыі, а таксама рэгулярнага забеспячэння палітыкаў і сродкаў масавай інфармацыі ЗША праўдзівай інфармацыяй аб сітуацыі ў Беларусі.

Учора Андрэй Саннікаў у якасці дэлегата Міжнароднай лігі правоў чалавека выступіў з дакладам у Камісіі ААН па правах чалавека ў Жэневе: даклад прысвечаны абмежаванням свабоды слова ў Беларусі.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## З сесіі – у Намібію

Учора Анатоль Малафееў, адкрываючы чарговую сесію «палаты прадстаўнікоў», спяшаўся — яму трэба было ад'язджаць у Намібію. У сталіцы гэтай афрыканскай дзяржавы Віндхуку адбываецца канферэнцыя Міжпарламенцкага саюза, куды запрасілі А.Малафеева на чале дэлегацыі «палатачных» дэпутатаў.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## Брусель стаў бліжэй

**З Бруселя вярнулася дэлегацыя прадстаўнікоў Хартыі-97, якія прынялі ўдзел у святкаванні 80-годдзя незалежнасці БНР і мелі шэраг сустрэчаў з дэпутатамі Еўрапейскага парламента, а таксама з прадстаўнікамі іншых еўрапейскіх структураў.**



*У штаб-кватэры Еўрапейскай камісіі ў Бруселі стаяць сцягі ўсіх краінаў кантынента. У тым ліку і сцяг Беларусі.*

Як нам паведаміў кіраўнік дэлегацыі і каардынатар Хартыі-97 Дзмітрый Бандарэнка, 25 сакавіка ў брусельскім офісе Хартыі прайшло адкрыццё выставы сучаснага беларускага мастацтва, на якой былі прадстаўленыя работы сяброў суполкі «Пагоня» Аляксея Марачкіна і Аляксандра Родзіна. Нагадаем, што сёлета беларускія ўлады не дазволілі мастакам гэтай творчай групы наладзіць у Мінску традыцыйную выставу да ўгодкаў БНР. Мастакі былі вымушаныя падзяліць экспазіцыю на некалькі частак і праводзіць выставы ў розных месцах.

На адкрыццё беларускай выставы ў брусельскі офіс Хартыі-97 прыйшлі дэпутаты Еўрапарламента, супрацоўнікі структураў Еўрасаюза, а таксама прадстаўнікі беларускай эміграцыі. Былі і двое супрацоўнікаў беларускай амбасады, якія, аднак, не афішавалі сваю прысутнасць.

Беларуская дэлегацыя наведала таксама штаб-кватэру Еўрапарламента, дзе сустрэлася з дэпутатамі гэтага прадстаўнічага органа, прысутнічала на паседжанні камісіі па парламенцкіх кантактах з Беларуссю, Украінай і Малдовай. Гэтая камісія прымае рашэнні аб фінансавай дапамозе пералічаным краінам. Напрыклад, за 6 гадоў у рамках праграмы *TASIS* Расія атрымала ад Еўрасаюза 1 мільярд 200 мільёнаў долараў, Украіна — 500 мільёнаў долараў, Беларусь атрымала толькі каля 50 мільёнаў — і то яшчэ да прыходу Лукашэнкі да ўлады. У наступным месяцы гэтая камісія будзе абмяркоўваць сітуацыю ў Беларусі, але магчымасць выдзялення дапамогі нашай краіне вельмі мізэрная — еўрапейцы не фінансуюць дзяржавы з дыктатарскім рэжымам.

Дарэчы, у еўрапейскіх структурах не прызнаюць не толькі незаконна сфармаваныя Лукашэнкам новыя дзяржаўныя інстытуты, але і ўведзеную ім сімволіку. Напрыклад, у штаб-кватэры Еўрапейскай камісіі (выканаўчага органа Еўрасаюза) Беларусь пазначана бел-чырвона-белым сцягам. Па словах Дзмітрыя Бандарэнкі, беларуская прысутнасць у Еўропе адчувальная, і аб гэтым сведчыць не толькі зацікаўленасць нашай краінай з боку еўрапейскіх структураў, але і надпіс «Жыве Беларусь!» у цэнтры Кёльна.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Прэзідэнт сам разбярэцца з пацярпелымі ўкладчыкамі?

**Канфлікт вакол выратавальніка пацярпелых укладчыкаў Ігара Клюева выходзіць на новы ўзровень — прэзідэнцкі. На мінулым тыдні А.Лукашэнка распарадзіўся стварыць рабочую групу па праверцы дзейнасці клюеўскай кампаніі «Белнацыяналсервіс», з прыбыткаў якой выплачваліся невялічкія грошы пацярпелым укладчыкам.**

Нагадаем, што два гады таму бізнесмен Ігар Клюеў, дырэктар фірмы «Белнацыяналсервіс», раптоўна вырашыў заняцца дабрачыннасцю і дапамагчы шматлікім укладчыкам фінансавых «пірамідаў» — кампаніяў, якія бралі грошы ў людзей пад неверагодна высокія працэнты, а потым знікалі. Клюеў сабраў вакол сабе некалькі тысячаў укладчыкаў і паабяцаў ім вярнуць грошы. Так з'явілася Беларускае аб'яднанне пацярпелых укладчыкаў «За сацыяльную справядлівасць».

У высокіх кабінетах улады таксама знайшліся людзі, гатовыя дапамагчы няўдалым беларускім капіталістам. Гэтай праблемай заняліся памочнік прэзідэнта Віктар Кучынскі і віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч. Менавіта яны дапамаглі Клюеву сустрэцца асабіста з Лукашэнкам. У выніку гэтай сустрэчы з'явіўся прэзідэнцкі указ аб дзяржаўнай падтрымцы пацярпелых укладчыкаў. Дзяржаўным структурам было даручана дапамагаць «Белнацыяналсервісу» зарабляць грошы для кампенсацыі пацярпелым укладчыкам.

І ўсё б ішло добра, але напрыканцы мінулага года Камітэт дзяржкантролю правёў праверку дзейнасці фірмы Клюева. Праверка выкрыла шматлікія парушэнні ў ажыццяўленні знешнеэканамічнай дзейнасці. На фірму наклалі велізарны штраф — 314 тысячаў долараў. Каб спагнаць грошы, усе рахункі фірмы былі арыштаваныя.



*Ігар Клюеў — «пацярпелы абаронца» пацярпелых укладчыкаў.*

Ігар Клюеў, вядома, быў незадаволены вынікамі праверкі. І падаў у суд на Камітэт дзяржкантролю, на начальніка групы, што праводзіла праверку, а таксама на Беларускае тэлебачанне, якое паказала сюжэт пра дзейнасць Клюева ў рубрыцы «Крымінальная хроніка». Адначасова ў дзяржаўнай газеце «Знамя Юности» з'явіўся артыкул, поўны абвінавачванняў супраць старшыні Камітэта дзяржкантролю Мікалая Дамашкевіча і яго супрацоўнікаў. Камітэт дзяржкантролю ў сваю чаргу надрукаваў у іншых дзяржаўных газетах абвяржэнне інфармацыі, але чамусьці ў форме не афіцыйнай паперы, а газетнага фельетона...

Невядома, як доўга цягнулася б гэтая мітусня, але тут умяшаўся прэзідэнт, які вырашыў сам разабрацца ў гэтай справе і стварыў камісію. У яе ўваходзяць не толькі КДБісты і дэпутаты лукашэнкаўскага «парламента», але і тыя самыя людзі, якія лепяць праявралі «Белнацыяналсервіс». «Абаронца пацярпелых укладчыкаў» Ігар Клюеў спадзяецца, што гэтая праверка нарэшце дапаможа ўстанавіць праўду і зняць з яго ўсе абвінавачванні.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

*Справа Кудзінава: вытокі і прычыны*

# Год за кратамі

**З той пары, як быў арыштаваны дэпутат і прадпрымальнік Уладзімір Кудзінаў, мінуў год з лішкам. Газета СВАБОДА досыць падрабязна асвятліла судовы працэс, які адбыўся летась у жніўні. Нагадаем, што дэпутат У.Кудзінаў атрымаў 7 гадоў узмоцненага рэжыму па абвінавачванні ў даванні хабару маёру ДАІ.**

Апеляцыя Уладзіміра Кудзінава знаходзіцца цяпер на разглядзе ў Вярхоўным судзе. Але... Не сакрэт, што нашыя дзяржаўныя органы глядзяць на прадпрымальнікаў (за выключэннем тых, што з'яўляюцца «сваімі людзьмі» ў калідорах улады) як на «класавых ворагаў». Прычым, відаць, гэтыя «ўшывыя блохі» яшчэ павінны быць удзячнымі, што ім наогул дазваляюць існаваць, і сядзець моўчкі. А калі прадпрымальнік мае ўласныя погляды і не тоіць іх і да таго ж асмельваецца займацца палітычнай дзейнасцю, ідзе ў апазіцыю рэжыму — гэта ўжо страшэнны крымінал. За гэта дзяржава бязлітасна карае з усёй уласцівай ёй помслівасцю, каб іншым не было ахвоты. Супярэчнасці ў нарматыўных актах даюць магчымасць зачапіцца практычна за кожнага прадпрымальніка, а пануючы ў нас прававы «беспрадел» дазваляе не надта зважаць на заканадаўчыя нормы. Узяць шэраг гучных крымінальных справаў апошняга часу: пры ўсёй вялікай розніцы паміж А.Клімавым, В.Старавойтавым і А.Пупейкам, іх аб'ядноўвае тое, што ўсе гэтыя людзі ў нашай дзікунскай эканоміцы здольналі паспяхова рабіць справу і пры гэтым (у той ці іншай ступені) быць «палітычна ненадзейнымі». Цяпер ужо відавочна, што тут маецца выразная тэндэнцыя. Але «першай ластаўкай» было наканавана стаць менавіта Уладзіміру Кудзінаву.

### Што гавораць людзі

Адкрыццё ў канцы 1992 г. гандлёва-прамысловай фірмы «Івацэвічы» пад кіраўніцтвам У.Кудзінава сталася для жыхароў раёна сапраўдным падарункам. І тут няма перабольшвання. У пацвярджэнне можна было б прывесці вялікую колькасць лічбаў, у якіх адлюстраваная дзейнасць фірмы — але не хочацца прыпадабняцца ўладам. Цяперашні рэжым выдатна засвоіў любімы прыём савецкага кіраўніцтва: нягледзячы на тое, што эканоміка яўна падае, паказчыкі ў справаздачах няўхільна ўзрастаюць. Між тым, рэальны паказчык эканамічнага стану — гэта багацце асартыменту тавараў у крамах і тое, як гэтае багацце суадносіцца са зместам кашалькоў. Таму ўладарам кашалькоў і слова.

Віктар Русак, беспрацоўны: «Магазіны, якія ён адчыніў, яшчэ і цяпер у народзе называюць «кудзінаўскімі». Калі яны адчыняліся, я заўважыў, як выцясняецца спажыўкааперацыя, і зрабіў выснову, што гандаль павінен быць толькі прыватным. Тады ў магазінах былі нормы выдачы прадуктаў у адны рукі. А ў Кудзінава — колькі хочаш, столькі бяры. У адрозненне ад дзяржгандлю, у кудзінаўскіх крамах не бывала недаважанай. У яго працавалі вельмі ветлівыя дзяўчаты. Быў харошы асартымент. Больш двух дзён мяса ў магазінах не трымалі. Таму, калі пачалося вылучэнне Кудзінава ў дэпутаты, у Івацэвіцкім раёне быў цэлы рух за яго. Бо мы бачылі, як ён працуе».

Вячаслаў Гарчакоў, электрык вузла сувязі: «Калі працавалі магазіны Кудзінава, было вельмі зручна. Тады ж павальны дэфіцыт быў — а ў яго многа было тавараў, якіх у іншых магазінах не было. І па нізкіх цэнах».

Таццяна Цырковіч, чыгуначны дыспетчар: «У кудзінаўскіх магазінах па невялікіх цэнах можна было купіць і прадукты, і імпартныя тавары — шмат такога, чаго раней у продажы не было».

Якім чынам дасягаўся гэты дабрабыт, мне распавёў былы супрацоўнік фірмы Станіслаў Казловіч — ён сам, як толькі пачынаўся сезон, займаўся закупкай свежай садавіны ў Малдавіі. У кудзінаўскіх магазінах у Брэсце, Бярозе, Івацэвічах і Івацэвіцкім раёне пастаянна было каля 20 гатункаў калбасных вырабаў, для чаго ў падсобнай гаспадарцы ў штодзённым абароце знаходзілася 825 галоў буйной рагатай жывёлы і 535 свіней.

Дарэчы, падсобную гаспадарку Кудзінаў купіў у Брэсцкага аблсельбуда. На дагаворы пабач з подпісам Уладзіміра Кудзінава стаіць подпіс «брэсцкага будаўніка» Пятра Пракаповіча, нядаўна прызначанага старшынёю Нацбанка. Па сведчаннях відавочцаў, гаспадарка знаходзілася тады ў заняпадзе. Ды і хто б прадаў прыбытковую? Пра «цукерку», якую зрабіў з гэтай гаспадаркі Кудзінаў, маюцца захапляльныя водгукі нават у афіцыйнай прэсе. Вось што пісала ў свой час абласная «Заря»: «Звязаўшы ў адной упражцы сельгасвытворчасць і гандаль, Уладзімір Кудзінаў дэманструе выдатныя вынікі». Матэрыял падмацаваны фотаздымкамі гэтай гаспадаркі.

Цяперашні стан калісьці квітнеючай гаспадаркі — жудасны. Ад яе засталіся толькі сцены. Абсталяванне ў асноўным пакралі, астатняе — паламанае і раскурочанае, будынкі стаяць без вокнаў, без дзвярэй. Гаспадарка была сканфіскаваная на карысць дзяржавы і кінутая на волю лёсу.

### Як пачыналася разбурэнне

Узмоцненыя праверкі гаспадарчай дзейнасці Кудзінава пачаліся, калі ён быў вылучаны кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета. Тады ж, па сведчаннях людзей, што дапамагалі яму падчас перадвыбарчай кампаніі, распачаўся і ціск іншага кшталту — ад мудрагелістых плётак пра Кудзінава да пагрозаў членам ініцыятыўнай групы. Праўда, супрацоўнік райвыканкама, які прасіў не называць яго прозвішча, сцвярджае, што ўлады Кудзінаву ніяк не перашкаджалі, як і не мелі нічога супраць яго гаспадарчай дзейнасці — няхай бы, маўляў, правільна плаціў падаткі, і ўсё было б нармалёва. Аднак факт застаецца фактам: 24 кастрычніка 1994 г., за дзень да афіцыйнай рэгістрацыі Кудзінава ў якасці кандыдата, па ягонай гаспадарцы і гандлёвых пунктах пракацілася праверка, якой свет не бачыў — 120 кантралёраў! Амаль цэлы батальён праваўладчыкаў, па ўсіх правілах вайсковай дысцыпліны, рухаўся з трох напрамкаў — з Баранавіч, Пінска і Брэста. Нягледзячы на такую наступальную моц, нічога супрацьзаконнага тая праверка не выявіла.

Затое праз год пасля гэтага раённая падатковая інспекцыя выявіла, што Кудзінаў недаплаціў падаткі і дапусціў парушэнні ў касавых аперацыях. Усе абвінавачванні наконт падаткаў адхіліў Брэсцкі абласны гаспадарчы суд. А што да касавых аперацыяў... Справа ў тым, што нейкая асоба заплаціла грошы за мяса праз касу кудзінаўскага магазіна, а не праз банк. А паколькі сума была вялікая — зрабілі выснову, што яна ніяк не можа належаць фізічнай, а толькі юрыдычнай асобе. Аднак не буду стамляць чытачоў падрабязнасцямі і ацэньваць, наколькі пазіцыя інспекцыі абгрунтаваная. У наяўнасці вынік: прыбытковая гаспадарка, якая давала столькі карысці людзям, у «дбайных» дзяржаўных руках проста загінула.

Мне так і не ўдалося высветліць, хто нясе адказнасць за раскрадзеную маёмасць і за цяперашні стан гаспадаркі. У райвыканкаме сказалі, што яны не маюць да гэтага ніякага дачынення — продажам сканфіскаванай маёмасці павінна займацца падатковая інспекцыя. Начальнік падатковай інспекцыі Клаўдзія Мельнікава падкрэсліла, што згодна з указам прэзідэнта адпаведная камісія, якой належыць займацца продажам, павінна быць створаная якраз пры райвыканкаме. Такім чынам, гаспадарка, кошт якой, дарэчы, быў ацэнены ў суму 12.923 млрд. рублёў (што амаль у тры разы перавышае суму штрафу за парушэнне касавых аперацыяў), практычна сталася нічыйнай.

### Карысць была для ўсіх

Каму ад разбурэння гаспадаркі стала лепей? Каму перашкаджала прадпрымальніцкая дзейнасць Кудзінава? Яна ж прыносіла дзяржаве толькі карысць, прычым шмат па якіх параметрах. Былі задаволеныя спажыўцы (якраз гэты фактар, а не нейкія абстрактныя лічбы, з'яўляюцца паказчыкам паспяховасці эканамічнай дзейнасці). Меркаванняў пра дзейнасць Кудзінава, падобных вышэйпрыведзеным, мне давялося пачуць у Івацэвічах вельмі шмат — гэта агульнапрынятая думка. Менавіта з гэтай прычыны У.Кудзінаў атрымаў пераканаўчую перамогу на выбарах. А калі трапіў пад суд, сотні людзей падпісаліся пад зваротамі, каб яго не пазбаўлялі волі.

Акрамя таго, фірма Кудзінава забяспечвала ў раёне 350 працоўных месцаў. Працаю і заробкамі людзі былі задаволеныя. «Я ўжо пяць месяцаў без працы. Раней нам усе зайздросцілі, — а цяпер я зайздрошчу тым, хто мае работу», — гаворыць былы супрацоўнік фірмы Мікалай Гарэлік. «Мы ўсе працавалі з энтузіязмам, было жаданне зрабіць як мага лепш. А пасля Кудзінава, каб выраўнаваць сітуацыю, сталі даваць датацыі — раней у гэтым не было патрэбы», — кажа намеснік дырэктара «кудзінаўскага» магазіна Ала Рыштакова. «Умовамі працы і заробкамі я быў задаволены, — гаворыць Станіслаў Кучынскі, які працаваў грузчыкам на сховішчы фірмы. — Кудзінаў прыемны і добры чалавек, які заўсёды ўважліва выслухоўваў, калі прыйдзеш да яго са сваімі праблемамі. Калі прыйшла вестка, што Кудзінава арыштавалі, я быў вельмі ўражаны. На мой погляд, гэта была загадзя спланаваная акцыя супраць яго».

(Працяг на стар. 3)

# За что сидел Пупейко

*Александр ПУПЕЙКО: «Если следствие будет заинтересовано в том, чтобы найти истинных преступников, то я готов с ним сотрудничать!»*

Как мы уже сообщали, известный белорусский бизнесмен Александр Пупейко получил статус политического беженца. Теперь он получит так называемый «женевский паспорт» и станет недосягаем для лукашенковской Фемиды. Заседание Варшавского суда по делу о выдаче Беларуси Александра Пупейко должно состояться в мае, но уже теперь ясно, что решение будет не в пользу белорусских властей.

Пупейко не раз утверждал, что готов предоставить беспристрастному суду доказательства своей невиновности, подтвержденные документально. Белорусская общественность пока не ознакомлена с этим делом, и мы решили восполнить этот пробел. По просьбе нашей газеты Александр Пупейко прокомментировал обвинения, выдвинутые против него белорусскими органами обвинения.



*А.Пупейко: «Истинные получатели денег находятся в Минске»*

**— На заседании Варшавского суда 5 марта судья высказал свои замечания по поводу отсутствия доказательств вменяемого вам преступления в представленных материалах.**

— Да, все стороны процесса, включая судью и прокурора, оценивают материалы, представленные белорусской прокуратурой, однозначно: если бы к нескольким листкам постановления о возбуждении уголовного дела вместо остальных бумаг добавить «Войну и мир» — эффект был бы тот же. Можно сказать, что это издевательство над польскими судебными органами — таков уровень документов, что они сюда прислали.

Все дело состоит из 3 папок. Первая — это 2 листочка о назначении процесса, судей и т.п. Во второй изложены действия, касающиеся моего задержания, и действия моих адвокатов. И только третья папка — 300 страниц — представленные белорусской прокуратурой материалы вместе с переводом на польский язык (и над этим трудилась целая следственная группа!). Большая часть материалов дела — это документы: устав фирмы, протоколы заседаний правления, различные договора...

Задержали меня на основании обвинения в том, якобы я путем обмана и злоупотребления доверием выманил банковский кредит на 1 млн. 200 тыс. долларов США. А затем белорусская прокуратура прислала в Польшу материалы обвинения — по той же статье — но уже на получение кредита в размере 4 млн. долларов по «заведомо подложным» документам. Появился в новом обвинении также такой момент, как «совместно и по предварительному сговору» с другими лицами. Причем, как я уже говорил в одном интервью, с арифметикой у нас в стране плохо: на одной и той же странице постановления о привлечении меня в качестве обвиняемого (за подписью начальника отдела по важнейшим делам прокуратуры) говорится, что я путем мошенничества похитил 4 млн.долларов — посредством двух фирм, одной из них приписывается 1 млн., а другой — 2 млн. долларов.

Есть еще несколько забавных, на мой взгляд, моментов. Например, меня обвиняли в том, что я скрываюсь, но в этом деле есть мой точный домашний адрес в Германии, есть адрес моей фирмы, адреса моих адвокатов.

**— Вы сказали, что располагаете документами, доказывающими вашу невиновность. Вы могли бы сейчас рассказать об этом?**

— Да, теперь я располагаю и документами. И хотя найти эти документы мне было сложнее, чем белорусскому следствию, но мне это удалось. По поводу тех 1+2=4 млн.долларов, о которых идет речь в обвинении, я готов сотрудничать со следствием, чтобы выявить истинных получателей этих денег. Кроме того, готов дать необходимые пояснения, где эти деньги теперь. Я могу рассказать, кто лоббировал получение этих денег и кто брал за это взятки. Эти люди находятся в Минске, и некоторые занимают очень высокие должности в администрации президента, в правительстве и в «Агропромбанке». Чтобы эти кредиты были получены и соответствующим образом использованы, было очень грубое давление на «Агропромбанк», хотя все это было также в интересах некоторых работников самого банка, которые и теперь работают там. Повторяю, это не имеет ко мне никакого отношения, но поскольку меня за это посадили, то я нашел доказательства. И следствие, если захочет, знает, как со мной связаться.

**— А если белорусское следствие не заинтересуется этим (в силу понятных причин), станут ли когда-нибудь известны общественности эти фамилии?**

— В конце 1995 г. Нацбанк Беларуси выделил «Белагропромбанку» депозит в 4 млн.долларов для выделения кредита фирмам, которые выиграли тендер на поставку зерна. Это были фирмы: «Казагросервис», *«RASS»* и «Пуше-АГРО». Соответственно эти фирмы получили в «Белагропромбанке» следующие кредиты: «Казагросервис» — 1 млн.долларов (зерно закуплено, поставлено, кредит возвращен), *«RASS»* — 1 млн.долларов (зерно закуплено, поставлено). «Пуше-АГРО» получило 2 млн.долларов и кредит не возвратило.

Проблемы возникли у «Пуше-АГРО», которая в то время сотрудничала с известной компанией «ФИКО». Именно ее руководитель, Наталья Шевко, была инициатором этого проекта, но гарантии «ФИКО» по возврату кредита бывший в то время председатель правления «Белагропромбанка» Заставнюк принимать отказывался. После чего по вопросу получения этого кредита последовали звонки в банк из правительства, президентской администрации и «Нацбанка». Президент «ФИКО» Наталья Шевко указала мне (и не только мне), какие суммы и кому она за это дала. Были названы фамилии самых высокопоставленных функционеров страны.

Схема сделки была такова. Кредит в размере 2 млн. долларов был оформлен на «Пуше-АГРО», поскольку фирма обладала необходимыми параметрами по объему имущества, состоянию баланса и т.д., достаточными для обеспечения гарантий по кредиту. Предполагалось, что в использовании 2 млн. для приобретения зерна примет участие «ФИКО», за что она должна была получить свою часть прибыли от реализации этого проекта.

У нас была договоренность со всеми партнерами, что кредит формально берет «Пуше-АГРО» и оформляет все договора (мы обеспечили этот кредит договорами поручительства и договорами залога); а выполняет работу для «Пуше» компания «ФИКО», которая также должна была оформить дополнительное обеспечение и переоформить кредит на себя. Дополнительное обеспечение этого кредита также на 2,5 млн.долларов предоставила фирма «Белмед» (причем, оформлено это обеспечение было абсолютно идентично обеспечению от «Пуше-АГРО»). В результате кредит был получен и немедленно ушел по реквизитам, указанным Шевко, — на счет голландской фирмы *«VID-Chemicals Netherlands B.V.»* в латышском банке, откуда он ушел в еще один голландский оффшор. А оттуда, по словам Н.Шевко, эти деньги распределялись следующим образом: около 1,1 млн. долларов — «Корпобанку» в счет погашения кредита, взятого в январе 1995 года фирмой «ФИА», и около 0,7 млн.долларов венгерской фирме *«KOSMATON»* (я располагаю документами, которые это подтверждают). Это были не случайные фирмы, хотя они и не имели отношения к поставкам зерна. Владельцем «ФИА» был бывший муж Натальи Шевко, Шевко В.В. Совладельцами «Корпобанка» были белорусский Экзархат и «ФИКО». Возглавлял «Корпобанк» В.В. Близнец — сын бывшего в то время руководителем валютного департамента «Агропромбанка» В.Ф. Близнеца. К концу 1995 года как раз разгорелся скандал в связи с этим непогашенным кредитом, поскольку банк начинал процедуру банкротства и закрытия (так что ему нужно было «чистить» баланс).

Вторая часть кредита, 0,7 млн.долларов, которая, как я уже говорил, была переведена на счета *«KOSMATON»* (которая является фирмой г-на Колосовского, совладельца фирмы «Белмед») и разделена между «Белмедом» и венгерской фирмой *«FORMATON»* (650 тыс.долларов).

Белорусская прокуратура располагала многими материалами, подтверждающими нашу невиновность. А «Белагропромбанк» всегда знал, что эти 2 млн. используем не мы, а «ФИКО», и в сентябре 1996 г. принял решение переоформить кредит с «Пуше-АГРО» на «ФИКО». Мы быстро подготовили все документы, но потом банк передумал. А вот бумага осталась... Наталья Шевко также никогда не отказывалась от того, что она распоряжалась этими деньгами...

Из вышесказанного можно «вычислить» тех, кто выиграл на истории с этим кредитом и именно на такой организации этого 2-миллионного кредита. Проигравшими же оказались «Пуше-АГРО», «Пуше» и Пупейко, который отсидел 41 день в тюрьме.

Хозяйственным судом для погашения этого кредита с «Пуше-АГРО» и «Пуше» было взыскано имущества более, чем на 4 млн.долларов, поскольку фирма являлась имущественным поручителем по кредиту. Но имущественным поручителем был и «Белмед», с которым в суде мы были солидарными ответчиками. Тем не менее, суд по совершенно необъяснимым причинам отказал «Белагропромбанку» в иске к «Белмеду». А после того, как с нас взыскали долг, я еще должен был посидеть в тюрьме, доказывать, что я не «верблюд», а те люди, которые действительно попользовались этими деньгами, — вне подозрений.

**Людмила ГУЛЯКЕВИЧ**

# Год за кратамі

*(Пачатак на стар. 2)*

Памятаючь у Івацэвічах і правелізарную дабрачынную дзейнасць Кудзінава. Ён дапамагаў раённай бальніцы, царкве, дзіцячым садкам, школе (ад рамонту будынка да стыпендыяў старанным вучням), інвалідам і ветэранам вайны. Жыхары гарадка прыгадваюць, што малазабяспечаныя людзі маглі проста прыйсці да Кудзінава — і ён не адмаўляў у матэрыяльнай дапамозе.

Штогод У.Кудзінаў плаціў дзяржаве дзесяткі тысячаў долараў падаткаў. Здавалася б, дзяржава павінна берагчы і шанаваць такіх людзей, як Уладзімір Кудзінаў. Гэта асабліва актуальна зараз, ва ўмовах чарговага эканамічнага абвалу. Такога б не было, калі б эканоміка ў кожным раёне краіны абапіралася на сваіх кудзінавых. Аднак негатыўнае стаўленне дзяржаўных органаў з самага пачатку дыктавалася тым, што сістэма дзяржаўнага гандлю не вытрымлівала, ды і не магла вытрымаць, канкурэнцыі з руплівым гаспадаром, якім быў Кудзінаў. А пасля да гэтага дадаліся яшчэ і палітычныя матывы.

«Напрошваецца заканамерная абагульненне: вопыт фірмы «Івацэвічы» універсальны», — пісала тая ж брэсцкая «Заря» ў 1995 г. (артыкул называўся «Формула сумленнага бізнесу»). Аб'ектыўна яно, мабыць, і правільна — але па нашых умовах нікому не пажадаем пераняць гэты вопыт. Бо ў беларускай формуле пасля сумленнага бізнесу ставіцца знак роўнасці і вычэрпваюцца турэмныя краты.

### За што пасадзілі

«Што тычыцца падсобнай гаспадаркі — не трэба асабліва шкадаваць і хвалявацца, таму што ўсё гэта ў жыцці яшчэ можна зрабіць. Галоўнае ў жыцці — гэта фізічнае здароўе і здароўе думкі. Усё астатняе будзе дасягнутае», — піша Уладзімір Кудзінаў з турмы сваім дочкам.

Уладзімір Кудзінаў быў асуджаны за даванне хабару. Не хачу спыняцца на тым, што ў аснову доказаў на гэтым працэсе быў пакладзены дыктафонны запіс, зроблены незаконным чынам, на якім экспертыза не змагла «выключыць прыкметаў мантажу», роўна як і на масе працэсуальных парушэнняў — у свой час я пісаў пра гэта даволі падрабязна.

Але рэч нават не ў тым, што віна Уладзіміра Кудзінава падчас судовага працэсу рэальна не была даказаная... Памятаю, па расійскіх СМІ праходзіў скандальны сюжэт: у грузавіку са спіртовымі напоямі, на якія не было дакументаў, журналісты праехаліся па 25 пастах ДАІ, на кожным з якіх прапаноўвалі хабар. На 24 пастах гэты хабар узялі! Калі і можна сцвярджаць, што ў Беларусі прынцыпова іншая сітуацыя, дык хіба толькі ў тым, што ў нас гэтых журналістаў абавязкова б пасадзілі.

Другі прыклад: праводзілася апытанне сярод бізнесменаў, якія ацэньвалі стан карумпаванасці чыноўнікаў у розных дзяржавах па 10-бальнай шкале. Каля 10 балаў набрала Новая Зеландыя (г.зн. там практычна не бяруць хабару), адзін бал з хвосцікам быў у Нігерыі (без хабару там кроку не ступіш). Беларусь у гэтым апытанні не фігуравала, а Расія набрала 3 балы — не надта адышла ад Нігерыі. Ізноў жа: наўрад ці ў нас становішча значна лепшае за Расію. Але галоўнае ў тым, што нікому ж не прыйшло ў галаву лічыць заходніх бізнесменаў, што вымушаны былі даваць гэтыя хабары, злачынцамі. У карупцыі заўжды вінаватая сістэма, якая стварае ўмовы для ўсяўладдзя чыноўнікаў, і злачынцамі з'яўляюцца асобы, якія, карыстаючыся службовымі пасадамі, бяруць хабар. Але не людзі, якія мусяць працаваць у рамках сістэмы і падпарадкоўвацца ўмовам, пры якіх без хабару нічога не зробіш.

Нават не самым адукаваным жыхарам Івацэвічаў выдатна зразумела, за што на самой справе пасадзілі Уладзіміра Кудзінава. «Каб ён супраць Лукашэнкі не галасаваў — дык і зараз ягоная гаспадарка працавала б» — так кажуць тутэйшыя жыхары.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Небяспечныя гульні альбо стваральная праца?

*(Пачатак на стар. 1)*

Трэба памятаць таксама, што пераход ад дыктатарскіх рэжымаў да дэмакратычных у гісторыі часцей за ўсё адбываўся праз пэўны пераходны перыяд. Пасля знішчэння гітлераўскага рэжыму ў Нямеччыне ні ў 1945, ні ў 1946 годзе нікому і ў галаву не прыходзіла абвяшчаць і праводзіць усеагульныя выбары. Патрэбен быў час на дэнацыфікацыю, дэмілітарызацыю, дэмакратызацыю нямецкіх дзяржаўных і грамадскіх інстытуцый.

Перамовы кіраўніцтва БНФ з дзеячамі беларускай дэмакратычнай апазіцыі паказваюць, што на рацыянальным узроўні апошнія не маюць што супрацьпаставіць прыведзеным намі аргументам супраць палітычнай гульні пад назвай «Выбары прэзідэнта-99». Не маюць яны і вялікіх ілюзій наконт магчымых вынікаў такіх выбараў. Галоўны аргумент з іхняга боку гучыць эмацыянальна: «Ну трэба ж нешта рабіць!» Безумоўна, рабіць трэба. Але рабіць, ясна ўсведамляючы, што пакуль у большасці беларусаў не будзе больш-менш трывалага ўсведамлення каштоўнасці нацыянальнай ідэі, унутранай патрэбнасці жыць у незалежнай дэмакратычнай еўрапейскай Беларусі, датуль перамогі над таталітарызмам і невуцтвам у нас не будзе.

А гэтых мэтаў немагчыма дасягнуць аднымі палітычнымі сродкамі. Тут патрэбная мабілізацыя ўсіх інтэлектуальных і духоўных сілаў новай Беларусі.

Дзеля гэтага і павінен сёння развівацца мірны **беларускі вызвольны рух**. Найважнейшыя кірункі дзейнасці гэтага руху можна паказаць у форме Моцнай Рукі: пяць пальцаў — пяць кірункаў. Беларускі Народны Фронт ужо разгарнуў сваю працу па кожным з іх.

**Першы кірунак** мае ўмоўную назву: «АБАРОНІМ НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ». Яго мэта — законным чынам прымусіць сысці ў адстаўку **антыбеларускі недэмакратычны рэжым**. Нам бачацца наступныя сродкі і метады дасягнення гэтай мэты:

1. Акцыя «АДСТАЎКА», зместам якой ёсць збор подпісаў за адстаўку сённяшняга прэзідэнта. Збор подпісаў павінен быць матываваны: ігнараванне нацыянальных інтарэсаў Беларусі і невыкананне сваіх перадвыбарных абяцанняў, знішчэнне нацыянальнай культуры і г.д.

2. Акцыя «АСУДЖЭННЕ і ПАКАЯННЕ», зместам якой ёсць грамадскі суд над тымі палітычнымі дзеячамі Беларусі, якія знішчаюць незалежнасць нашай краіны. Яны маюць шанец на памілаванне, але толькі праз пакаянне перад беларускім народам. Суддзямі павінны стаць паважаныя ў нашым народзе асобы, якія ахвярна жылі, працавалі, будавалі і баранілі Беларусь.

**Другі кірунак** вызвольнага руху ажыццяўляецца пад дэвізам: «БЕЛАРУСЬ — НАШ ДОМ, НАШ ХРАМ, НАША БАЦЬКАЎШЧЫНА-МАЦІ». Яго мэтамі павінны быць: абуджэнне ў свядомасці нашых людзей любові да Беларусі; фармаванне патрэбы ў шанаванні Радзімы; культываванне і пашырэнне веры ў выратавальную місію нацыянальнай ідэі; фармаванне гістарычнай памяці, самасвядомасці; фармаванне грамадзянскай супольнасці на базе нацыянальнай ідэі і агульнадэмакратычных каштоўнасцяў; фармаванне палітычнай самасвядомасці, гістарычнай памяці, нацыянальнай самаідэнтыфікацыі на падмурку беларускай нацыянальнай ідэі.

Вялікую ролю тут могуць і павінны адыграць сустрэчы нашай творчай інтэлігенцыі з людзьмі, найперш з дзецьмі і з моладдзю, правядзенне дзіцячых і юнацкіх літаратурна-мастацкіх конкурсаў «Наш Дом Беларусь у XXI стагоддзі».

Стратэгічна важная задача — развіццё беларускай сярэдняй і вышэйшай школы, стварэнне (няхай сабе пакуль што і «ў стол») для яе падручнікаў і методык.

Пашырэнне беларускай прысутнасці ў сістэме *INTERNET* магчымае і неабходнае ўжо сёння.

Фармаванне беларускай інтэлігенцыі не можа быць без актыўнага ўдзелу інтэлектуальнай беларускай прэсы — пашырэння ўплыву «Нашай нівы», «Фрагмэнтаў», «Крыніцы», «Спадчыны», «Бярозкі» і стварэння новых незалежных выдавецкіх праектаў, без развіцця беларускага кнігадруку (праекты «Беларускі кнігазбор», «Архіў найноўшай гісторыі», «Скарбы сусветнай літаратуры», «Адкрытае грамадства» — іх павінны былі б быць сотні!).

Вельмі істотным чыннікам умацавання нацыянальнай ідэі ў гэтым кірунку з'яўляецца распаўсюджванне і прапаганда нашай нацыянальнай сімволікі, сустрэчы гісторыкаў, іншых навукоўцаў з людзьмі з нагоды нацыянальных святаў, распаўсюджванне дэмакратычнай прэсы і інш.

**Трэці кірунак** працы можна абагульніць дэвізам «ЗАХАВАЕМ НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ!» Яго відавочная мэта — абарона незалежнасці і суверэнітэту Беларусі. Каб дасягнуць гэтай мэты, мала адных мітынгаў і шэсцяў у абарону нашай незалежнасці. Мы павінны без шавіністычнага ўхілу, але выразна паказваць нашым суграмадзянам, што сённяшняя расійская палітыка — гэта небяспека нашай незалежнасці, гэта перспектыва для нашага народа быць уцягнутым у халодныя і гарачыя войны за чужыя інтарэсы. Зыходзіць мы павінны з таго, што ў сённяшняй Расіі няма рэальных палітычных сілаў (гаворка не ідзе пра асобы), зацікаўленых у незалежнай еўрапейскай Беларусі — г.зн. у рэалізацыі жыццёва важных для нас мэтаў. **Расія нам не вораг, наш вораг — расійскі імперыялізм.**

Мы павінны праяўляць салідарнасць са звычайнымі расіянамі, якія пацярпелі ад войнаў, нястачы, неатрымання заробкаў і г.д., ладзіць для гэтага «акцыі салідарнасці». Мы павінны прапагандаваць сапраўды выгадны для нашага народа кірунак інтэграцыі — не з крымiналізаванай Расіяй, а з цывілізаванай Еўропай.

**Чацвёрты кірунак** беларускага мірнага вызвольнага руху можна было б назваць: «ПАБУДУЕМ НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ У XXI СТАГОДДЗІ». Яго мэта — фармаванне «Беларускай мары» ў форме праекта і чаканняў нармальнага, цывілізаванага жыцця ў Свабоднай Беларусі XXI стагоддзя.

Сродкі і метады дасягнення гэтай мэты маглі б быць такія: стварэнне сацыяльна-палітычнай і эканамічнай мадэлі «Беларусь — у XXI стагоддзі»; стварэнне новых канцэпцыяў рынкавых эканамічных, палітычных і адукацыйных рэформаў праз правядзенне адпаведных конкурсаў для студэнтаў, аспірантаў, навукоўцаў, супрацоўнікаў дзяржапарату і г.д.; давядзенне да шырокага кола грамадзянаў канцэпцыі будучай незалежнай Беларусі — «БНР XXI стагоддзя» (дзяржаўніцкай, эканамічнай, прамысловай, сельскагаспадарчай, пасьлячарнобыльскай, прававой, маральнай); стварэнне твораў сусветнага ўзроўню сучаснай нацыянальнай культуры; правядзенне ўсебеларускай акцыі атрымання грамадзянства БНР; арганізацыя разнастайных акцыяў пад агульным лозунгам «Беларусь у Еўропу».

**Пятаму кірунку** працы можна было б даць назву: «МАРАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ». Яго мэтай павінна стаць стварэнне ідэальнага маральнага вобраза сапраўднага беларуса і беларускі. Маральным узорам для нас павінны быць змагары за незалежнасць Беларусі, абаронцы Беларусі ад гітлераўскіх фашыстаў і іншых ворагаў, нашы ахвярныя дзеячы навукі, вытворчасці, адукацыі, культуры. Менавіта на такіх узорах мы павінны ажыццяўляць выхаванне маладой нацыянальнай эліты.

Гэтыя пяць стратэгічных кірункаў дзейнасці падобныя да пальцаў рукі — рукі, якая імкнецца працаваць на карысць Беларусі, а калі спатрэбіцца — бараніць яе.

Гэта рука, працягнутая любому, хто падзяляе нашыя ідэі і хоча супрацоўнічаць незалежна ад партыйнай прыналежнасці і канфесійнага веравызнання. Гэта — дужая рука. Для абароны Беларусі гэтыя пяць пальцаў сціснутыя ў кулак, каб моцна трымаць нацыянальны сцяг і ўсё, што патрэбна для абароны краіны ад захопнікаў і каланізатараў, і — каб пакараць здраднікаў.

Не небяспечныя палітычныя гульні, а штодзённая творчая праца на будучыню Беларусі зробіць гэтую будучыню шчаслівай, а яе прыход — рэальным.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ**



*Народны фронт робіць стаўку на моладзь.*

*ДАГЕРРОТИП*

# О введении единопразднования в Беларуси

**Семен БУКЧИН**

*Установилось бы одно господствующее мнение по всем событиям и вопросам!*

*Козьма Прутков.*

Стоило, конечно, пройти через все эти жуткие исторические пертурбации — свержение царя, революции, большевизм–сталинизм, распад Союза, — чтобы в итоге придти к временам незабвенного директора Пробирной Палатки Козьмы Петровича Пруткова, автора замечательнейшего проекта «О введении единомыслия в России». Но именно этой — почти полуторастолетней давности — эпохой пахнуло от президентского указа №157 «О государственных праздниках и праздничных днях в Республике Беларусь». Читаю этот выдающийся документ и думаю: как все-таки не повезло нашему правителю! Ну жил бы человек во времена Николая I, большого специалиста по приведению всех и вся «во фрунт», и как славно все было бы! А теперь вот приходится колесо истории откручивать назад. И ведь все в одиночку! Но ничего. Чувствуется, что подвиг этот нашему по силам.

Во-первых, он умеет учиться у истории, берет из нее, как сам любит говорить, все лучшее. Вот и насчет праздников. Говорят, что у нас их чересчур. Работать, мол, некогда, все празднуем. Но это ведь как посмотреть... Герой Салтыкова–Щедрина помпадур Единственный с полным основанием утверждал, что праздник вообще лучше будней, потому что *«в праздник начальники бездействуют, а, следовательно, нет ни бунтов, ни соответствующих им экзекуций»*.

Насчет бунтов и экзекуций это, конечно, правильно замечено. Народ пьет, гуляет — какие ж тут бунты? А вот начальников своих помпадур Единственный распустил. Потому и рухнули они, помпадуры эти самые. Наш правитель мудрее. Праздник для того и учреждается, чтобы начальник не спал в шапку, бдел, так сказать, ежечасно.

Вот, скажем, согласно тому же указу №157 праздников учреждено пять и еще праздничных дней чуть более пятидесяти. Итого — больше, чем недель в году. Ничего, кажется, не забыто. И штурм Зимнего обозначен, хотя дело было в Петрограде и вроде к Беларуси отношения не имеет. Но зачем же обижать ветеранов, которым хочется?

И про Новый год сказано, и про Рождество Христово — и по православному, и по католическому календарю. Все предусмотрено. Добрый все-таки человек, наш правитель. Вот не внес бы он в свой указ Новый год и Рождество — что бы мы стали делать? Как праздновать, ежели на то указа соответствующего нет? А тут, пожалуйста, — все по закону. А еще говорят про какой-то авторитарный режим! Забота, одна забота о народе и видна! Бутылку можешь покупать, что называется, каждую неделю. Ежели не День единения народов Беларуси и России, так День таможенника или День пожилых людей. Праздничные дни расписаны на все вкусы и потребности. Вот уж действительно никто не забыт.

И диалектика налицо. Тот же День милиции уравновешен Днем прав человека. В День банковского работника не худо помнить о том, что скоро наступит День работников прокуратуры. Ну и, разумеется, полное раздолье пограничникам, десантникам, танкистам, артиллеристам...Только и следи, чтобы на радостях последний ржавый танк не пропили или ракету куда–нибудь налево не сплавили.

Конечно, кое–кто может счесть себя и обиженным. Те же украинцы, к примеру, могут возмутиться: почему это, мол, есть День единения народов только Беларуси и России? Почему забыт третий кровный брат? Но это уж братцы–хохлы сами виноваты. Захотели полной самостийности. А вошли бы в Союз под председательством нашего правителя — и получили бы соответствующий праздник. Теперь пусть чешутся, думают...

Или те же евреи могут спросить: почему, мол, в список государственных не внесен ихний праздник Пурим? Но у нас, как известно, антисемитизма нет, хотя евреи почему–то уезжают. Вот пусть и празднуют в своем Израиле. Стоит ли для по какому–то недосмотру еще застрявших здесь каких–то тридцати тысяч человек учреждать специальный праздник? Хотя, повторяю настойчиво, у нас антисемитизма нет...

Опять же мусульмане могут заерепениться. Но уж им-то грех! Последние годы Беларусь только и занята укреплением контактов с мусульманскими странами. Первейшая, можно сказать, государственная задача. Так что, может быть, придется Шахсей-Вахсей разрешить. Правда, наиболее истовые во время шествия не только колотят себя плетками до крови, но могут и православного человека задеть. Ну тут уж милиция обязана все предусмотреть.

Зато ясно, каким праздникам никогда не бывать. Эту самую националистическую БНР задумали недавно на щит поднять. Теперь, после указа, все понятно. Нет такого праздника, Дня основания БНР! И если милиция до недавнего времени путалась — в смысле, бить или не бить? — то теперь этот вопрос, ясное дело, отпадает. В указе четко сказано: «Решение об установлении государственных праздников и праздничных дней... принимается Президентом Республики Беларусь». Праздник, не попавший в указ, — дело почти антигосударственное. Каждый должен сделать соответствующие выводы.

Так что нормальные граждане при изобилии праздников, закрепленных в указе, будут чувствовать себя замечательно. Законная бутылка, повторяю, может быть употреблена каждую неделю. И даже несколько чаще. Ну а уж гражданам, которые о каких-то своих праздниках возмечтали, тем тоже, надо полагать, все будет обеспечено. «Володарка», «американка», СИЗО, разные ОВД и УВД, суды, штрафы... Все — как и полагается в демократической Беларуси.

Постепенно, видимо, народ привыкнет. И, как писал мудрейший Козьма Прутков, «даже злонамеренные люди, если б они дерзнули быть иногда несогласными с указанным «господствующим» мнением, будут остерегаться противоречить оному, дабы не подпасть подозрению и наказанию».

Так, скорее всего, и будет... А иначе зачем указы издавать?

# Еврейское счастье

*Россия: удивительный карьерный взлет Сергея Кириенко*

Пожалуй, впервые в жизни Сергей Владиленович Кириенко, взбираясь по служебной лестнице, перепрыгнул через несколько ступеней. Кроме стремительного рывка на последнем этапе, ничего неожиданного в карьере бывшего комсомольского вожака нет. Все как у приличных людей новейшей генерации: школа, институт, завод, комсомольская работа, кооператив, банк, нефтяная компания, правительство.

Правда, исходные позиции у Кириенко были похуже, чем у многих. Это сегодня он может позволить себе смело произнести на всю Россию: «У меня папа — еврей». А в приснопамятные годы с фамилией Израитель не то что комсомолом командовать (Кириенко с 89-го по 91-й был секретарем Горьковского обкома ВЛКСМ, ответственным за научно-техническое творчество молодежи), в институт поступить было непросто. Нейтральная фамилия матери — ее он получил в семилетнем возрасте по решению суда, оформившего после непростого процесса развод родителей, — безусловно облегчала доступ к высшему образованию. И все-таки способный молодой человек поехал из Сочи грызть гранит науки не в столицу, а в г.Горький (теперь — Нижний Новгород).

Сергей Кириенко получил диплом экономиста в Горьковском институте инженеров водного транспорта, где кафедру философии возглавлял его отец. Службы в армии он не избежал, но и там время не зря тратил — вступил в Коммунистическую партию Советского Союза. Вся дальнейшая трудовая деятельность Сергея Кириенко, вплоть до перевода в Москву, связана с Горьким. Да и Бориса Немцова, будущую свою путеводную звезду, он повстречал там же. Но карьеру партноменклатурщика в 1991 году по известным причинам пришлось прервать с тем, чтобы перековаться в бизнесмена. Благо, опыт организационной работы уже был, способностями Бог не обделил, а связи, приобретенные на комсомольском поприще, упрощали старт.



*Это сегодня Кириенко может позволить себе смело произнести на всю Россию: «У меня папа — еврей».*

На постах директора концерна АМК, председателя правления банка «Гарантия» и главы нефтяной компании «Норсиойл» Кириенко, судя по всему, администрировал вполне успешно, во всяком случае, неуклонно продвигался вперед. Недоброжелатели, правда, утверждают, что деятельность Сергея Владиленовича в этот период была, мягко говоря, небезупречной (его компанию обвиняют в невыплате долгов ряду партнерских фирм). Тем не менее нефтеперерабатывающую компанию «Норсиойл» он спас от банкротства. Бывшие сослуживцы по нижегородским конторам (возможно, в надежде стать москвичами) говорят о нем только хорошо: «умеет ладить с людьми; вежливый, но требовательный; блестящий организатор». Сам Кириенко подчеркивает, что «всегда был наемным работником и никогда никакими акциями не владел».

Ровно год назад Борис Немцов пригласил Сергея Кириенко в Москву на должность замминистра топлива и энергетики. За год пребывания во власти молодой министр не фигурировал ни в одном скандале, не высказался ни по одной политической проблеме и не был замечен ни в каких внутриправительственных интригах.

Несомненно, он не кривит душой, когда утверждает, что это счастье (возглавить правительство) привалило ему нежданно-негаданно. Собирался вечером праздновать день рождения дочери, а получилось вот что... Все последующие действия и высказывания Сергея Кириенко говорят о том, что он быстро оправился от потрясения и начал действовать в обычном стиле — никаких опрометчиво определенных шагов, никаких резких слов. Напротив, последовало заявление о готовности проводить консультации по выработке идеологии нового правительства «со всеми политическими и экономическими силами». И.о. премьера успел всем сказать приятное. Коммунистическому большинству в Думе: «...Я не стыжусь того, что вступил в партию... Я не стыжусь своего комсомольского прошлого...» И тут же — вежливые реверансы в адрес опального Черномырдина и объявление о готовящихся встречах с Зюгановым и Явлинским. Кстати говоря, в былые времена у Кириенко были довольно близкие контакты с «яблочниками», в 1996 он даже числился помощником депутата от фракции «Яблоко» Ольги Беклемищевой.

Трудно сказать, станет ли премьером 35-летний Сергей Кириенко. Сегодня Дума должна начать рассмотрение его кандидатуры на пост главы российского правительства.

**Александр РЫКЛИН**

*Кстати*

*По российской Конституции, президент может три раза с интервалом в две недели представлять Думе кандидатуру на должность премьера. Если палата трижды голосует против, президент имеет право распустить парламент и объявить досрочные выборы.*



*Украина*

## Коммунисты первые

**4-процентный барьер на выборах в Верховну Раду Украины преодолели 8 партий.**

По результатам голосования компартия Украины набрала 24,68% голосов. Народный Рух получил 9,42%, блок Социалистической и Селянской партий — 8,54%, партия зеленых — 5,45%, Народно-демократическая партия — 4,99%, «Громада» — 4,68%, Прогрессивная соцпартия — 4,03%, Социал-демократическая партия (объединенная) — 4,02%. При таких результатах голосования коммунисты получат в партийной части парламента 84 места, Народный Рух — 32, социалисты и селяне — 29, зеленые — 19, НДП — 17, «Громада» — 16, Прогрессивная соцпартия — 14, социал-демократы — 14.

*Евросоюз*

## В очереди – 11 стран

**Пять восточноевропейских стран и Кипр начали переговоры с Европейским Союзом о перспективах членства в этой организации.**

Экономически Кипр наиболее соответствует стандартам, необходимым для вхождения в ЕС. Но из-за политической нестабильности ряд членов ЕС опасаются оказаться вовлеченными в конфликт между Грецией и Турцией. В 1974 году Турция оккупировала северную треть Кипра. Переговоры о вступлении в ЕС ведет греческая часть Кипра. Другие кандидаты на членство в Европейском Союзе — Польша, Венгрия, Чехия, Словения и Эстония. Но эти страны должны сначала укрепить и ускорить рыночные реформы и привести законодательство и экономику в соответствие с требованиями ЕС. На это потребуется около пяти лет. Вторая «очередь» претендентов — Литва, Латвия, Словакия, Румыния и Болгария, но они пока могут рассчитывать только на предварительное членство.

*Ирак*

## Саддам все спрятал?

**Специальная Комиссия ООН по контролю за уничтожением оружия массового поражения завершает инспекцию президентских объектов в Ираке.**

Эксперты Спецкомиссии и сопровождающие их дипломаты осмотрели шесть объектов из восьми. Глава дипломатической делегации Джаянта Дханапала отметил, что инспекции прошли без инцидентов, иракские чиновники были настроены дружелюбно. Однако 8 так называемых «президентских» объектов состоят из 1.058 зданий и занимают площадь в 31,5 квадратных километров. В связи с этим осмотры были довольно поверхностными. Впрочем, эксперты ООН не надеялись найти материал именно на этих объектах, так как инспекции начались через месяц после достижения договоренности. Напомним, что Генеральный секретарь ООН Кофи Аннан и иракская сторона заключили соглашение об инспекции объектов особой важности 23 февраля, а осмотры начались 26 марта. Цель Спецкомиссии ООН — установить, что Ирак не производит оружие массового поражения. В таком случае, Совет Безопасности ООН будет решать вопрос о снятии экономических санкций с Ирака.

*Индия*

## Год без еды

**Агентство «Скриппс Хауэрд» сообщает об индийском монахе, который не ел уже 11 месяцев.**

64-летний Сахамунииджи Махарадж начал пост 1 мая прошлого года, его дневной рацион состоит из кружки сырой воды. За это время он потерял 35 килограммов веса, но намерен продолжать поститься до начала мая. Причиной такого самоотречения стали не политические, а религиозные убеждения, его цель — очищение. Врач, наблюдающий за состоянием здоровья монаха, не может объяснить, почему он находится в сравнительно хорошей форме. Обычно, здоровый человек редко проживает без пищи дольше двух месяцев, а обезвоживание организма дает о себе знать на третьи сутки. Режим Махараджа настолько строг, что образ жизни спартанцев в сравнении кажется барским. Он два часа медитирует, тричетыре часа спит, а в оставшееся время молится и принимает посетителей. Махарадж принадлежит к секте джайнитов, которая проповедует радикальный аскетизм и принимает обет жизни без насилия. Последователи секты не едят животной пищи, не носят кожаную обувь, надевают на лицо маску, чтобы не вдохнуть мошек, и ступают очень осторожно, чтобы не раздавить кишащих под ногами насекомых.

*Китай*

## Бумажные гробы

**Отныне в городе Гуанчжоу на юге Китая покойников будут хоронить в бумажных гробах.**

Исключение, как это часто бывает, власти города решили сделать для иностранцев и для китайцев, живущих за границей, — их дозволяют хоронить в деревянных гробах. Подобная мера призвана сохранить китайские леса, ибо подсчитано, что каждый год в печах крематориев обращается в дым 5 тысяч гектаров леса.

*Москва выступает за проведение делимитации российско-украинской границы в сжатые сроки*

# На суше проблем нет

**Первый заместитель министра иностранных дел России Борис Пастухов высказался за необходимость проведения делимитации российско-украинской границы «в сжатые сроки».**

*«Мы долго запрягались, но надеемся, что поедем быстро»*, — заявил он, открывая в среду в Москве первое совместное заседание российской и украинской комиссий по делимитации государственной границы между двумя странами. Коснувшись вопросов делимитации сухопутной границы между Россией и Украиной, Б.Пастухов пояснил, что *«переговоры по данному вопросу будут строиться на основе административно-территориальной границы между РФ и Украиной как республиками бывшего СССР с учетом существующих законодательных и нормативных актов, регулирующих ее прохождение»*. Как отметил первый заместитель министра, Москва *«не видит каких-то особенных спорных участков»* на сухопутной границе.

Между тем выступления перед началом заседания Б.Пастухова и его украинского коллеги Константина Грищенко выявили определенные расхождения в подходах Москвы и Киева к решению проблемы Азовского моря. Российская сторона рассматривает Азовское море *«как внутренний водоем, находящийся в пользовании двух государств — РФ и Украины»*. В свою очередь, зам.главы МИД Украины К.Грищенко подчеркнул, что *«для развития и совершенствования нашего сотрудничества в сохранении ресурсов Азовского моря, прежде всего, надо определить зону ответственности каждого государства и провести четкую границу»*. По словам украинского дипломата, *«в решении проблемы Азова интересы России и Украины во многом совпадают»*. Со своей стороны Б.Пастухов, отметив, что *«существует несколько подходов»* к проблеме Азовского моря, высказал мнение, что ее решение *«не следует сводить к определенному погранично-таможенному сотрудничеству»*. *«Мы рассчитываем на то, что удастся выйти на комплексный подход к освоению минеральных ресурсов этого водоема, в котором биологи прогнозируют достаточно серьезные запасы нефти и газа»*, — подчеркнул первый зам.главы МИД РФ.

*Интерфакс*

## Беларусь отличилась

**Жители Восточной Европы употребляют больше алкогольных напитков, чем их западные соседи, сообщает агентство *Reuter*.**

По данным опроса, проведенного компанией *Canadien*, средний восточноевропеец выпивает за год 6,2 литра эквивалента чистого спирта, житель Западной Европы — на 1 литр меньше. Рекордсменами оказались Эстония, Словакия, Беларусь, Украина и Литва — в этих странах потребление алкоголя достигает 10 литров. А Чехия является абсолютным чемпионом мира по потреблению пива. На душу населения, включая, видимо, и грудных младенцев, приходится 161 литр пива в год.

*500 гадоў таму Полацк атрымаў Магдэбургскае права*

# Гарадское паветра рабіла чалавека свабодным

Няма чаго спрачацца: беларусы — еўрапейскі народ, а радзіма нашых продкаў — Вялікае Княства Літоўскае — было, у адрозненне ад усходняга суседа, еўрапейскай дзяржавай з усімі тыповымі рысамі. Праўда, шмат хто з грамадзянаў сённяшняй Беларусі недаверліва хмыкае на такія сцверджанні. І гэтых нашых суайчыннікаў няцяжка зразумець: каб засумнявацца, зусім неабавязкова ехаць у Нямеччыну або ў Францыю (дый абсалютнай большасці гэта проста не па сродках). Часам дастаткова падысці да акна, за якім адкрываецца вока велічная панарама нашага росквіту — ад недагледжаных і брудных двароў і вуліц да нязменнага міліцэйскага кардону на блізкім даляглядзе.

Разам з Еўропай Беларусь прайшла такія вызначальныя для еўрапейскай цывілізацыі этапы, як эпоха Рэнесансу, а затым Рэфармацыю і Кантррэфармацыю. Гэтыя паняцці гучаць для многіх досыць абстрактна. Таму звернемся сёння да рэчаў больш канкрэтных і блізкіх да жыцця, а менавіта — да Магдэбургскага права, паводле якога нашыя гарады на працягу стагоддзяў мелі самакіраванне і якога ніколі не існавала на ўсход ад Беларусі (як, дарэчы, не было там і згаданых Рэнесансу і Рэфармацыі).

Права на самастойнае кіраванне ўпершыню ўзнікла ў XIII ст. у нямецкім горадзе Магдэбургу (адсюль і назва), пасля чаго хутка пашырылася па Еўропе. У 1498 годзе грамату на Магдэбургскае права атрымаў найстаражытнейшы з беларускіх гарадоў Полацк. Ён быў не першым: яшчэ ў 1387 г. такую грамату атрымала Вільня, потым Берасце (1390), праз год — Гародня, у 1441 годзе — Слуцк... Але «круглая» дата дае нагоду бліжэй пазнаёміцца з жыццём якраз Полацка, што на той час яшчэ заставаўся найбагацейшым і найбуйнейшым горадам Вялікага Княства Літоўскага і паспяхова спаборнічаў са сталіцаю Вільняй.

Магдэбургскае права вызваляла гараджанаў ад феадальных павіннасцяў, ад суда і ўлады вялікакняскіх старастаў і ваяводаў. Гарадскім жыццём кіраваў выбарны магістрат з дзвюх «палатаў» — рады і лавы. Рада з'яўлялася непасрэднай гарадской уладай: у сферы яе кампетэнцыі былі маёмасныя і цывільныя судовыя справы. Лава займалася крымінальнымі злачынствамі.

У раду гараджане выбіралі радцаў, або райцаў, у лаву — лаўнікаў. Раду ўзначальвалі выбарныя бурмістры, лаву — прысланы вялікім князем войт альбо прызначаны ім з ліку гараджанаў намеснік — лентвайт.

У полацкім магістраце засядала гарадская рада з 24 радцаў на чале з чатырма бурмістрамі. Войт, прыбыўшы ў Полацк, абавязаны быў прысягнуць на крыжы, што будзе служыць гораду і кіравацца найперш ягонымі інтарэсамі.

Гарадское паветра рабіла чалавека вольным. Магдэбургскае права не дазваляла вярнаць сялян-уцекачоў, якія пасяліліся ў горадзе, былому гаспадару.

Магістрат збіраў падаткі, сачыў за правільнасцю мераў і вагаў на рынках, абараняў прывілеі гандляроў і рамеснікаў, што, як і ва ўсёй Еўропе, аб'ядноўваліся ў цэхі — своеасаблівыя сярэднявечныя прафсаюзы, кожны са сваім статутам. Напрыклад, полацкі цэх кушняроў і гарбароў — спецыялістаў па вырабе скур і футраў, — меў зацверджанае гарадскімі ўладамі права ў радыусе трох міляў ад горада канфіскоўваць ва ўсіх майстроў-аднаасобнікаў гэтай спецыяльнасці тавар, а іх саміх арыштоўваць.

Іерархія ў цэхах была, дарэчы, не менш складаная, чым на якім-небудзь сучасным прадпрыемстве. На верхняй прыступцы стаялі старасты-цэхмістры, за імі — старэйшыя і малодшыя майстры, потым — падмайстры–чаляднікі, яшчэ ніжэй — пахолкі і вучні. Каб падняцца па гэтай лесвіцы, найперш трэба было мець дакумент аб сваім законным нараджэнні, затым — доўгія гады вучацца і плаціць складкі. Напрыканцы навучання прэтэндэнт на пераход з чаляднікаў у майстры здаваў экзамен — «рабіў штуку». Здаралася, што прыдзірлівыя калегі моршчыліся, не хочучы прызнаваць чужую «штуку» сапраўдным шэдэўрам майстэрства. Тады, паводле цэхавай традыцыі, чаляднік даставаў з гаманца пятнаццаць злотых і запрашаў экзаменатараў у карчму. З кожнай новай чаркай «штука» рабілася ўсё больш дасканалаю, а запаветнае званне майстра — усё бліжэйшым.

Акрамя рамеснікаў, магістрат штодзённа займаўся гандлярамі і купцамі. Адны з іх з цяжкасцю зводзілі канцы з канцамі, у другіх — добра было, як у купца Якуба Хадыкі, гаспадара чатырох крамаў і маёнтка на рацэ Палаце. Калі верыць ягонаму тэстаманту, купец меў 476 коп літоўскіх грошай (капа — 60 манетаў), 1.600 чырвоных злотых, 349 шведскіх талераў і 69 срэбных талерак, сподкаў і кубкаў. Дзевятнаццаць Хадыкавых запазычнікаў абавязаных былі вярнуць яму яшчэ 3.850 коп грошай, а свой запавет гэты палачанін складаў у доме, сцены якога аздаблялі «на палатне карцін шэсцьнаццаць».

Значную частку палачан складалі людзі вайсковага стану, або — па-еўрапейску — рыцары. Перапіс войска Вялікага Княства Літоўскага засведчыў, што ў 1528 годзе іх у Полацку было 384. Шмат хто з іх абыходзіўся з купецкімі вагамі не меней упэўнена, чым са зброяй. Аднак, калі пачыналася вайна, выбіраць не даводзілася. Згодна з законам, рыцар, які ў прызначаны дзень не з'яўляўся на месца збору, плаціў вялікі грашовы штраф. За спазненне на тыдзень або самавольны сыход з войска ў час баявых дзеянняў вінаватага чакала смерць.



*Полацкая гарадская пячатка, 1791 г.*

Змагаючыся за парадак і выкананне законаў, магістрат не цырымоніўся з парушальнікамі. Архівы захавалі справу полацкага мешчаніна Марціна Какоркі, які меў неасцярожнасць публічна абразіць бурмістра. У выніку гарадскі кат адлічыў Марціну на рынкавым пляцы «сорак бізуноў», а рада на цэлы год забараніла яму займацца рамесніцтвам.

Як і ў наш час, на лаву падсудных нярэдка траплялі не толькі шараговыя грамадзяне, але і службовыя асобы з гарадской адміністрацыі. Полацкі бурмістр Даніэль Клібневіч апынуўся перад суддзямі за тое, што, даўшы хабар, правёў у раду свайго шваґра і разам з ім паклаў у кішэню тысячу грамадскіх залатоўкаў. Радца Міхневіч пагарэў на тым, што падаткі з полацкіх корчмаў здаў не ў магістрат, а, кажучы сучаснай моваю, паклаў на ўласны рахунак.

Як засведчылі дакументы, ужо нашым далёкім продкам былі знаёмыя такія сучасныя словы «сесія» і «карупцыя». У 1676 годзе ў Полацку адбыўся сход «магістратскіх асоб всех трех сессий и посполитых». Гарадскім уладам запрапанавалі скласці падатковую ведамасць і, збіраючы падаткі, «не отступать як пана роднага, так и посполитого, богатого и убогого, без никякое коррупции, не так, як перед тем». Пры гэтым «паспольства» — простыя гараджане — бралі на сябе абавязак кантраляваць збор падаткаў. Іншымі словамі, месячы рашуча адстойвалі адкрытасць дзейнасці магістрата і змагаліся за строгую справаздачнасць. Сённяшнія беларусы гэтага чамусьці не хочуць...

Магдэбургскае права, а яго мела большасць беларускіх гарадоў і мястэчкаў, давала права на ўласны герб. Полацкі герб уяўляў сабой трохмачтавы карабель з разгорнутымі ветразямі ў блакітным полі на срэбнай вадзе.

Не будзем ідэалізаваць права нашых гарадоў на самакіраванне: рознае было. Але ўсё, як вядома, пазнаецца ў параўнанні. У Маскоўскай дзяржаве, а потым у Расійскай імперыі, дзе панаваў абсалютызм з яго грубымі феадальнымі парадкамі, Магдэбургскага права ніколі не існавала. Таму пасля захопу ў канцы XVIII стагоддзя Беларусі імператрыца Кацярына II неадкладна выдала ўказы аб скасаванні як самакіравання, так і ўсіх гарадскіх вольнасцяў. Беларускія гарады былі пазбаўленыя і сваіх старажытных гербаў.

Часткай праграмы знішчэння памяці пра дэмакратычнае мінулае сталася руйнаванне гарадскіх ратушаў — будынкаў, у якіх некалі размяшчаліся органы гарадскога самакіравання, а таксама захоўваліся граматы з выдадзенымі гораду прывілеямі. Вось адказ на пытанне, чаму, згадваючы ратушы Полацкую, Менскую, Гарадзенскую, Магілёўскую, Слонімскую, Чавускую і г.д., энцыклапедыі лаканічна паведамляюць: «не зберагалася». Шчаслівых выключэнняў — адзінкі. Таму, прыпыніўшыся каля Нясвіжскай ці Віцебскай ратушаў, яшчэ раз успомнім пра еўрапейскі шлях Беларусі.

**Уладзімір АРЛОЎ**

## Даты і лёсы

*3 красавіка*

**1898.** Нарадзіўся Генры Льюс, заснавальнік буйнейшых амерыканскіх часопісаў *Time* (1923), *Fortune* (1930) і *Life* (1936).

**1913.** Лідэр англійскіх феміністак Эмеліна Пенкхерст была прыгавораная да 3 гадоў зняволення. Яна загадала паплечніцам замініраваць рэзідэнцыю прэм'ер-міністра Лойд-Джорджа, каб прымусіць улады даць жанчынам выбарчае права.

**1922.** Генеральным сакратаром бальшавікоў быў абраны Сталін. У той жа дзень арыштавалі за «антысавецкую дзейнасць» кіраўніка РПЦ патрыярха Ціхана.

**1930.** Нарадзіўся Гельмут Коль, ужо 16 гадоў ён узначальвае ўрад ФРГ.

**1975.** Анатоль Карпаў, якому тады было 23 гады, быў абвешчаны чэмпіёнам свету па шахматах без бою, бо папярэдні чэмпіён, амерыканец Бобі Фішэр, не з'явіўся на матч.

**1993.** Англічанін Н.Джонсан устанавіў своеасаблівы кухарскі рэкорд: ён здолеў пасекчы за 13 секундаў агурок даўжынёй 30 см. на 224 кругляшкі.

*4 красавіка*

**1803.** Быў заснаваны Віленскі універсітэт.

**1904.** Англія і Францыя падпісалі дамову пра «Сардэчную згоду» (Антанту), пазней да гэтага антыгерманскага блоку далучылася Расія. У гэты ж дзень у **1949** г. 11 краінаў заснавалі *NATO*.

**1968.** Быў застрэлены лаўрэат Нобелеўскай прэміі, змагар за правы неграў Марцін Лютэр Кінг. Забойцу прысудзілі 99 гадоў зняволення.

**1988.** Еўрапейцы паглядзелі апошнюю серыю тэлефільма *Crossroads*, яго паказвалі 24 гады.

*5 красавіка*

**1910.** На чыгуначных вакзалах Францыі былі афіцыйна забароненыя пацалункі. Адміністрацыя палічыла, што менавіта з гэтай прычыны цягнікі часта спазняюцца.

**1940.** У ссылцы ў Башкірыі памёр выбітны гісторык, першы беларускі мастацтвазнаўца Мікалай Шчакаціхін.

**1963.** Выйшаў першы альбом «Бітлз» *Please Please Me*, які паклаў пачатак бітламаніі.

*6 красавіка*

**1758.** Нарадзіўся лідэр Вялікай Французскай рэвалюцыі Максімільян Рабесп'ер. У 35 гадоў ён усталяваў у краіне крывавы рэжым рэвалюцыйнага тэрору, а неўзабаве і сам быў пакараны смерцю на гільяціне.

**1759.** Генерал Джордж Вашынгтон быў абраны першым прэзідэнтам ЗША, якія тады складаліся з 12 штатаў.

**1896.** У Афінах пачаліся першыя Алімпійскія гульні сучаснасці, адроджаныя баронам дэ Кубертэнам.

**1965.** Амерыканцы запусцілі ў космас першы камерцыйны спадарожнік сувязі *Early Bird*.

**1986.** Памёр англічанін Біл Боўкс. Ён вызначыўся тым, што 30 разоў вылучаў сваю кандыдатуру на выбарах у парламент. Усе выбары Боўкс прайграў, але праславіўся больш, чым многія пераможцы. Ягоная партыя складалася з аднаго чалавека — самога кандыдата ў дэпутаты. Лозунгам партыі былі словы: «Галасуйце за Біла Боўкса, капітана-марака з прыгожай барадой і блакітнымі ваенна-марскімі вачыма!»

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

АФІША

# На сцэне адны дзяўчаты

«Жаночы тэатр» — гэта не тэрмін, прыдуманы крытыкамі, і нават не вызначэнне жанру. Гэта назва тэатральнага праекта, які распрацаваны ў Эксперыментальных тэатральных майстэрнях, якімі кіруе вядомы рэжысёр Віталь Баркоўскі. 5 красавіка ў клубе Дзяржынскага Жаночы тэатр прадставіць пастаноўку Іны Дубок «Плыве, гайдаецца лодачка, або Маёр над Афрыкай». Гэта будзе сапраўды жаночы тэатр, на сцэне — чатыры дзяўчыны, у тым ліку і сама рэжысёр. Кошт квіткоў — ад 50 да 100 тысячаў рублёў.

### ТЭАТРЫ

На сцэне Тэатра оперы і балета 4 красавіка пройдзе «Аіда» з удзелам гасцей — расійскіх оперных зорак «першай велічыні» Людмілы Магамедавай (яна цяпер працуе ў берлінскай *Staatsoper*, а ў нас выступіць у партыі Аіды) і саліста Вялікага тэатра Расіі, народнага артыста СССР Уладзіслава П'яўко (ён будзе спяваць Радамэса). Таксама ў гэтым спектаклі публіка сустрэнецца з галоўным дырыжорам Беларускай оперы Аляксандрам Анісімавым. Таксама ў Тэатры оперы і балета можна пабачыць балет «Рамэо і Джульета» (3 красавіка), дзіцячую оперу «Кот у ботах» (5 красавіка, раніца), балет «Дон Кіхот» (5-га, вечар), оперу «Яўген Анегін» (7-га), балет «Сільфіда» (8-га) і оперу «Травіята» (9 красавіка).

Рускі тэатр запрашае паглядзець 3 красавіка «Адзінага спадкаемцу», 4-га — «У прыцемках» (Вялікая сцэна) і «Рулетку» (Малая сцэна), 5-га раніцай — «Таямніцы чароўнага гарышча», увечары — «Раскіданае гняздо», 7-га на Вялікай сцэне пройдуць «Пестуны лёсу», на Малой — «Браты Моор», 8-га можна пабачыць «Хто твой каханак, Жазэфа?», 9-га — «Ад'ютант-Ша Яго Вялікасці».

Маладзёжны тэатр прапануе 4-га «Яго сны», 5-га — «Я хачу быць каханай», 7-га ў 14:00 тут пройдзе казка «Брыдкое качаня», 8 і 9 красавіка — «Жаніцьба». У тэатры імя Янкі Купалы на наступным тыдні чатыры разы пройдзе «Князь Вітаўт» — 5-га, 6-га (у 11:30 і ў 19:00) і 8 красавіка, а на Малой купалаўскай сцэне можна пабачыць «Крываву Мэры» (3-га) і «Лэдзі Кронкі і мышы» (9-га).

### МУЗЫЧНЫ ФЕСТЫВАЛЬ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Фестываль «Мінская вясна» сёлета прысвечаны адразу некалькім значным музычным юбілеям. 3 і 6 красавіка ў Канцэртнай зале філармоніі адбудуцца ўрачыстыя канцэрты ў гонар 70-годдзя Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі. Арганізатары спадзяюцца, што з гэтай нагоды ў Мінск прыедзе легендарны Ілля Мусін — прафесар Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі, народны артыст Расіі, настаўнік многіх славутых дырыжораў. Цяпер 94-гадовы маэстра Мусін стаіць на чале Санкт-Пецярбургскай дырыжорскай школы, а калісьці пачынаў працаваць у аркестры Беларускага радыёцэнтра, які пазней стаў галоўным сімфанічным аркестрам Беларусі.

Цікавыя канцэрты прымеркаваныя да 125-годдзя Сяргея Рахманінава: у Канцэртнай зале філармоніі 4 красавіка выступіць піяніст Ю.Бліноў, у праграме — дзевяць эцюдаў-карцін вялікага рускага кампазітара, а таксама адна з санатаў Брамса, а 9 красавіка тут прагучыць рахманінаўская «Усяночная» ў выкананні Харавой капэлы імя Р.Шырмы.

Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі адзначыць сваё 30-годдзе 7 красавіка. У гэты дзень перад публікай прадстане «Парад дырыжораў» — на сцэну выйдуць усе тыя, хто ў розныя гады кіраваў аркестрам: народны артыст Расіі Алег Янчанка, Віктар Собалеў і Аляксандр Палянічка (усе яны цяпер працуюць у Расіі), а таксама цяперашні галоўны дырыжор Камернага Інга Эрнст Райль.

### БЕЛАРУСКАЕ КІНО

У сакавіку на кінаэкраны Мінска выйшла новая работа «Беларусьфільма» — «Маленькі баец» рэжысёра М.Касымавай, яна ж напісала сцэнарый у садружнасці з Віктарам Казько. Фільм пра нялёгкае і небяспечнае жыццё хлопчыка-сіраты будзе цікавы дзецям і дарослым. У ролях — Ягор Комлеў, Ірына Бандарчук-Скобцава, Генадзь Гарбук і іншыя. У бліжэйшы час «Маленькі баец» можна паглядзець у кінатэатрах «Цэнтральны» і «Партызан».

8 красавіка ў кінатэатры «Перамога» адбудзецца творчая сустрэча з заслужанай артысткай Беларусі Л.Румянцавай і прагляд фільма «Альпійская балада»(1965), дзе артыстка здымалася разам з С.Любшыным.

### ГАСТРОЛІ

Ларыса Доліна запрашае мінчукоў на сваю праграму «Хачу быць каханай», якая пройдзе ў канцэртнай зале «Мінск» 8 красавіка. Пачатак а 19-й гадзіне, кошт квіткоў ад 400 тысячаў да 2 мільёнаў 200 тысячаў рублёў.

Вядомы гітарыст Віктар Зінчук прыедзе ў Мінск, каб выступіць у Доме афіцэраў 9 красавіка. Пачатак канцэрта а 10-й гадзіне, квіткі каштуюць 200—600 тысячаў рублёў.

### ВЫСТАВЫ

У галерэі «Мастацтва» (пр.Скарыны,13) да 15 красавіка будзе працаваць выстава жывапісу Міколы Бушчыка. Палотнаў тут няшмат, але кожнае з іх па-свойму запамінальнае — сакавітым каларытам і вытанчанай адухоўленасцю.

У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі ўчора адкрылася выстава графічных твораў нямецкага мастака-мадэрніста Макса Эрнста. У Музеі беларускай скульптуры імя Бембеля разгарнуў экспазіцыю Сяргей Гумілеўскі. Нацыянальная бібліятэка Беларусі запрашае пазнаёміцца з работамі графіка Віктара Шылко.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

